# Рабочы Бабруйска

№ 6 (47) 1 – 7 сакавіка 2001 Наклад 299 ас. Паштовы адрас: 213 807, Бабруйск, а/с 11. Рэдактар Ігар ХОДЗЬКА.


ЭХ, ЖЫЦЦЁ...

## "Хай яны гараць сінім полымем..."



Гісторыя гэта пачалася яшчэ 26 красавіка 2000 года. У мікраёне Кісялевічы ў двухпавярховай цаглянай пабудове, што выкарыстоўвалася жыхарамі некалькіх навакольных дамоў для захоўвання сельгаспрадукцыі ды кансервацыі, адбыўся пажар. Усяго з 56 павецяў тады згарэла 8, з якіх 6 нязначна. Хаця на другім паверсе некалькі павецяў і пуставалі, тым не менш жыхарам гарадка яны ўпарта не выдзяляліся, нягледзячы нават на іх шматлікія звароты ў ЖЭК-14. Гэтым з задавальненнем карысталіся дзеці, якія аблюбавалі свабодныя памяшканні для сваіх гульняў. Уладальнікі павецяў неаднаразова звярталіся ў ЖЭК-14 з просьбай навесці парадак – павесіць на дзверы замкі. На гэта начальнік ЖЭКа Наталля Курмешка неаднойчы адказвала: "Павеці на балансе не лічацца", і ўвогуле "хай яны гараць сінім полымем". І вось, як насурочыла...

Замест таго, каб сабраць гаспадароў ды пагутарыць з імі, каб паспрабаваць адрамантаваць часткова падгарэўшыя памяшканні, адміністрацыя ЖЭК ужо на наступны дзень расклеіла аб'вы, у якіх паведаміла, што пабудову будуць... знасіць. Гэта было тэрмінова зроблена, прычым настолькі, што большасць захоўваемага дабра знікла разам з разабранай цэглай. Аднак хутка высветлілася, што ў 1998 годзе тры сям'і дома № 10 – Пігулеўскія, Галузы, Радчанкі – свае кватэры і падсобныя памяшканні прыватызавалі. Згодна з дагаворамі, тэхнічнымі пашпартамі на прыватызаваную маёмасць, ім дасталася ў якасці ўласнасці частка цаглянай пабудовы. Уладальнікі знішчаных павецяў падалі скаргу генеральнаму дырэктару Першамайскай ЖКГ, але ў адказ атрымалі звычайную "адпіску" ад намесніка генеральнага дырэктара С. Міхалевіча і дырэктара ЖКГ С. Нікіценкі за подпісам ад 26 траўня 2000 года. У дакументах ЖКГ паведамлялася, што памяшканне згарэла на 60%, а ў якасці прыкладу прыводзіліся не вельмі дакладныя лічбы – у павецях, разлічаных на 56 кватэр, згарэла 14. Адкуль узяліся 60%, застаецца вялікай таямніцай, бо, напрыклад, першы паверх захаваўся поўнасцю. Згарэлі толькі хіба дзверы, перакрыцці канструкцый, шыфер.

У якасці кампенсацыі ЖЭК-14 прапанаваў "пагарэльцам" "раўнацэнныя варыянты" – памяшканні на адлегласці 160 (!) метраў ад дома №10, а таксама маленькія падвалы ў суседнім доме №8. Зразумела, што тыя ад такой "кампенсацыі" адмовіліся.

Пацярпелыя жыхары звярталіся і ў вытворчае аб'яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі пры Бабруйскім гарвыканкаме. Але ў адказе паведамлялася інфармацыя аб "немэтазгоднасці рамонта".

Цікавая дэталь: ва ўсіх адказах-адпісках не скаргі ўсе "адпісанты" чамусьці сцвярджаюць, што на балансе будынак на знаходзіўся, хаця пацярпелыя жыхары на ўласныя вочы бачылі ў КЭЧе ў кнізе актаў прыёмак зафіксаваную перадачу пабудовы на баланс ЖЭКа.

Зараз пацярпелыя рыхтуецца заява ў суд, бо іх абсалютна незаконна пазбавілі права на ўласнасць, якая ім па праву належыць. Людзі б'юцца ўжо амаль год, аднак нічога не могуць дамагчыся. Асабліва іх цікавіць, куды пайшлі апрыходаваныя пры разборцы будынка матэрыялы, напрыклад, цэгла.

У шматлікіх адказах жыхарам паведамляецца, што разабраная цэгла пайшла на склад для рамонтных мэт. Але тады ўзнікаюць заканамерныя пытанні: калі будаўнічы матэрыял захаваўся ў добрым стане, на што трэба было ўсё ламаць? Ці калі пабудова знаходзілася па балансе ЖЭКа, якое права ён меў раскідваць чужую ўласнасць, а матэрыялы пакідаць сабе? Не зразумела...

Па матэрыялах мясцовага аддзялення БХК падрыхтаваў **Віктар КАЧАН.**

ЗАМЕЖЖА

## 10 дзён у Нямеччыне

*Калі б паўгады таму мне сказалі, што я на свае вочы пабачу, што такое заходні лад жыцця, пабываю ў Кёльне і Дзюсельдорфе – не паверыла б. Але лёс даў мне шанц, і, дзякуючы Беларускаму аб'яднанню маладых палітыкаў і ІВВ горада Дортмунда, я 10 дзён правяла ў Нямеччыне: той самай краіне, з якой змагаліся калісьці нашы дзяды, ад якой зараз мы атрымліваем гуманітарную дапамогу, якая жыве па сваіх законах і лічыць, што яны не самыя горшыя.*

*Напэўна, за такі кароткі час я не атрымала поўнага малюнку жыцця немцаў, і таму прапаную чытачам мае крыху фрагментарныя, але, спадзяюся, цікавыя назіранні.*

### Краявіды

Шлях ад Мінска да зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія, што ў Заходняй Нямеччыне, быў даволі працяглы, і дзякуючы таму, што ехала наша група аўтобусам, я мела магчымасць назіраць за паступовай зменай краявідаў. Польшча ўразіла сваім упрыгожаным рэкламным выглядам: рэклама была паўсюль, нават на недабудаваных хатах. З-за гэтага Варшава, паўз якую мы праязджалі ўначы, падалася мне дзіўчынай, што крыху злоўжывае парфумай. Усходняя Нямеччына выглядала больш стылізавана. Калі пабачыла велізарны вытворчы будынак, кшталту нашага БШК, увесь размаляваны пасцельнага колеру шашачкамі, каб не псаваць краявід, я зразумела, што гэта ўжо Захад. Размалявана была нават завадская труба вышынёй 100 метраў. А яшчэ Захад пачаўся з вялікай колькасці паветраных электрастанцый, падобных на флюгеры, і шматлагінальных агароджаў уздоўж аўтабанаў на працягу ўсяго нашага шляху.

### Правінцыя

Асабліва ўразіла мяне правінцыя. Не, вядома, былі вялікія гарады, віраванне людзей, машын і напружаны тэмп жыцця. Але менавіта ў невялічкіх гарадках тысяч на пяць жыхароў поўна адчувалася "нямецкасць". Прыгожанькія домікі, утульныя вулачкі і цішыня, чысціня, чысціня. У Бад-Мюстэрайфеле, напрыклад, я бачыла царкву, пабудаваную 800 год таму. Маё ўяўленне аб готыцы, як аб цёмных будынках, змянілася. Кожны каменчык велізарнай царквы быў жоўценькі, таму што яго адшкрэблі рэстаўратары, каб было прыгожа. Можа, гэта і занадта, але панямецку.

Увогуле, вуліцы мне здаваліся ляленчымі ад чысціні і безлічы кветак у вітрынах крамаў. Дарэчы, у гэтых невялічкіх крамах набыць можна было ўсё: посуд, бялізну, цацкі, свечкі... Асабліва ўразіла мяне тытунёвая і кававая крамы. Я адчувала сябе адначасова Калумбам, які разам з Амерыкай вынайшоў і тытунь, і рабыняй Ізаурай, якая трапіла на склад кавы да гаспадара. Больш за 200 гатункаў кавы дзе-небудзь бачылі? Я – не. Дарэчы, пачак "эксклюзіўнага" "Chibo" каштаваў 8 DM (1 DM = 540 BYR).



### Размова з парц'е

Жыла я ў гатэлі, і неяк, выкарыстоўваючы пачаткі ведання ангельскай мовы, пагутарыла з парц'е "аб жыцці". Гэта быў малады мужчына гадоў каля 30, чамусьці чарнявы, як італьянец. Аказалася, што ў гатэлі ён працуе толькі на выхадных, 8 дзён у месяц за 800 DM (чыстымі). Асноўная яго праца – клерк у кампаніі, якая займаецца асвятленнем кватэр, заробак – 4700 DM, за вылікам падаткаў ён атрымлівае 2800 нямецкіх грошай. Жонка яго таксама працуе, на рукі атрымлівае 1500 марак. За кватэру яны плоцяць каля 1000, а на астатняе (каля 4 тысяч) жывуць. Ёсць машына, дзяцей пакуль няма. Калі я спытала, няўжо яму не хапае, што падрабляе яшчэ, ён усміхнуўся і сказаў, што грошай заўсёды мала. Маё здзіўленне было выклікана тым, што я ведала кошты ў супермаркетах – яны былі вышэйшымі за нашы разы ў паўтара, не больш, і за 40 марак можна было набыць харчавання на тыдзень! Што, дарэчы, я і зрабіла.

### Эмігранты

Я зайшла ў краму, дзе прадаваліся свечкі. Выбірала доўга, некалькі разоў падыходзіла да касы, выбірала ізноў. У рэшце рэшт гандлярка запытала па-руску: "Вам помочь?". Яна прыехала ў Кёльн з Грузіі.

Кожны дзесяты грамадзянін Германіі не этнічны немец. Асабліва шмат туркаў. На вуліцах Дзюсельдорфа я пазнавала турчанак па спецыфічна павязаных хустцы. Немцам патрэбны рабочыя рукі – менавіта эмігранты працуюць на не самых высокааплочваемых працах.

### Кавярня

Сябар запрасіў мяне ў кавярню, і мы пайшлі. Толькі тады, калі мы купілі печыва і каву, селі за стол, мы зразумелі, чаму на нас усе дзівяцца: гэта была кавярня для пенсіянераў.

*(Працяг на стар. Б)*

БУДНИ

## К нам идет "Авангард", а кто в арьергарде ?

Как сообщили в "Панораме", после консультации в Москве нового руководителя БШК "Белшина" Д. Сивицкого с "солидными людьми" ему представили солидный московский банк "Авангард" как спасательный финансовый круг. Мы все смотрим московское телевидение, но ни разу не слышали это название; к слову, где делись все эти "менатэпы", "инкомы" и иже с ними? Неужели же у нас в Беларуси не нашлось бы своего банка, который вместо очередного безрезультатного финансирования сельского хозяйства взялся бы за "Белшину"? А деньги у банков есть, если посмотреть на офисы, которые построены и строятся, например, в Бобруйске.

Насмотришься по телеку, как восточные соседи преодалевают финансовые спады, и задашь сам себе вопрос: кто же придет в арьергарде за этим "Авангардом"?

**И. ХОДЬКО.**

## Пі — і ні аб чым не думай!

Менавіта так можна расцаніць наступную інфармацыю. А можа у вас узнікне іншая трактоўка прыведзенага факту? Лічыце самі, паважаныя бабруйчане.

За мінулы год у Бабруйску было выраблена моцных алкагольных напояў на 66 працэнтаў больш, чым за аналагічны папярэдні перыяд (гэта плюс каля мільёна літраў!). Агульны кошт выробленага алкаголю склаў 1 мільярд 115 мільёнаў рублёў. У той жа час скараціўся вытворчасць мяса амаль на паўтысячы тон, цэльнамалочнай прадукцыі — амаль на 5 тысяч тон.

Співаемся?..

**А. ЛІТВІНАЎ.**

## Народная солидарность

В последнее время в Бобруйске можно заметить, как пассажиры при выходе из троллейбуса отдают свои талоны вновь заходящим. Таким оригинальным способом бобруйчане ответили на очередное подорожание стоимости проезда в городском транспорте. В число участвующих в этом народном движении втягивается все большее число граждан всех возрастных групп, как говорится, и стар, и млад.

Как аукнулось, так и откликнулось.

**СТУДЕНТ.**



*Свои обращения, отклики, пожелания вы можете прислать нам на адрес: 213809, Бобруйск, а/я 11.*

РЭАЛІІ

## Чаму навучымся ці чаго баронімся?

На мінулым тыдні мы атрымалі паведамленне аб тым, што ўсе вучні мастацкага каледжу павінны здаць ватна-марлевыя павязкі ў штаб грамадзянскай абароны вучэльні. З якой мэтай гэта робіцца – не вядома было ані вучням, ані большасці выкладчыкаў. Хтосьці казаў: "Выбараў баяцца...". Ну чаго іх баяцца, спадарства? Няўжо ж надта жахліва паперчыну ў "сметніцу" кінуць?.. Каб у пошуках адказа не ламалі галаву сабе ні вы, ні вучні мастацкага каледжу, мы звярнуліся па тлумачэнні да адміністрацыі вучэльні.

Набраўшы нумар дырэктара, "выйшла" на сакратарку, якая параіла звярнуцца да дырэктара па выхаваўчай працы М.М. Сілівончыка. Апошні распавёў, што гэта робіцца па пастанаўленню кіраўніцтва адукацыі горада. Таксама ад яго я даведалася, што, сыходзячы з гэтага ліста, ў кожнай навучальнай, вытворчай установе горада павінны быць створаны пакоі, ў якіх на выпадак надзвычайных здарэнняў на кожнага вучня і працуючага захоўваліся б працівагаз, ватна-марлевая павязка і сродкі першай дапамогі, але каб атрымаць больш разгорнуты адказ, у сваю чаргу параіў звярнуцца да настаўніка па грамадзянскай абароне Івана Мікалаевіча.

З ім я сустрэлася асабіста. Ведаеце, што ад яго пачула? Што я ад жыцця адстала! Праслухаўшы маё пытанне, першым, што ён сказаў, было: "Югославского варианта мы не ждём и к нему не готовимся!!!". А потым, аказалася, што збіраюцца гэтыя павязкі выключна ў навучальных мэтах, маўляў, працівагазаў няма, хаця б гэта выкарыстоўваць навучымся. А яшчэ гэтыя павязкі абавязаны здабыць выратаванне на гарадскіх днях грамадзянскай абароны, што штогод праходзяць ці тое ў горадзе, ці тое ў Дубаўцы. А чаму ад жыцця адстала? Я пра гэтыя дні грамадзянскай абароны не ве-да-ю.

Але гэта, напэўна, не галоўнае. Галоўнае, што сітуацыю амаль што ніхто з адміністрацыі дакладна не растлумачыў. Мабыць, дырэктар – адзіная кампетэнтная асоба ў гэтым пытанні, але ў яго заўсёды важныя справы, з-за якіх мяне прыняць ён не знайшоў магчымасці.

Вось цяпер і думай далей: ці тое навучаемся, ці тое да выбараў рыхтуемся?

**Кацярына АНДРЭЕВА.**

РЕПЛИКА ЧИТАТЕЛЯ

## Откуда такая уверенность?

Слушаем и смотрим мы на своего "всенародно избранного" президента ежедневно и даже без выходных с "подъема и до отбоя".

Но вот недавно своими ушами слышала, как А.Г. Лукашенко, обращаясь на очередном заседании к членам правительства, заявил:

– Нам с вами еще работать 5,5 лет, так что настраивайтесь на напряженную работу.

Услышав это с экрана телевизора, подумалось мне, старой, откуда такая большая уверенность у "всенародно избранного"? Еще ведь не близко и президентские выборы, а уже такое предчувствие победы. А может и вообще не стоит растрачивать огромные государственные деньги на их проведение, да и обойтись без выборов? Мол, и так все ясно.

Невзначай вспомнился старый опытный большевик Сталин. Он не раз говорил: "Не главное, кто и как участвует в выборах, а кто считает результаты". Мудрые слова.

Не потому ли наш уважаемый президент так уверенно и обращается к своим соратникам?..

**Полина КОЛЫШЕВА,**
**бобруйчанка.**

## КОНКУРС

*Калі ты цікавішся тым, што адбываецца вакол цябе, маеш асабістыя думкі пра лёс сваёй Бацькаўшчыны – прымай удзел у нашым конкурсе!*

*Маладзёжны хрысціянска-сацыяльны саюз, Бабруйская гарадская арганізацыя працоўных жанчын, Таварыства Беларускай Мовы, пры падтрымцы Дзяржкамітэта па справах моладзі і фонда "Адкрытае грамадства" праводзяць*

**РЭГІЯНАЛЬНЫ ТВОРЧЫ КОНКУРС ДЛЯ МОЛАДЗІ "НАШЧАДКІ СКАРЫНЫ"**

Конкурс праводзіцца па дзвюх намінацыях:
I. ПАЭТЫЧНЫ ТВОР (верш)
II. ПРОЗА (сачыненне, апавяданне)

На конкурс прымаюцца творы па наступных тэмах:

***1. "Велічныя постаці Беларусі"***
***2. "Дзе мой дом, дзе мой люд, дзе айчына мая?" (Янка Купала)***
***3. "Мая Бабруйшчына зялёная..." (Пімен Панчанка)***
***4. "Маё месца у будачай Беларусі"***
***5. "Беларуская жанчына – хто яна?"***

Тэмы вершаў не абмяжоўваюцца.

**ТВОРЫ ПРЫМАЮЦЦА НА БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАХ**

У конкурсе могуць браць удзел школьнікі і студэнты навучальных устаноў ва ўзросце ад 14 год. Твор павінен быць выкананы у вучнёўскім сшытку, памерам не меней за 4 аркушы (4 листа). На вокладцы пазначыць:

1. Імя, імя па бацьку, прозвішча;
2. Навучальная установа, клас ці група;
3. Месца жыхарства, кантактны тэлефон (каб можна было звязацца з Вамі);
4. Узрост.

Творы прымаюцца да 8 сакавіка уключна; падвядзенне вынікаў адбудзецца 17 сакавіка. Працы дасылаць на адрас:

*213828, БАБРУЙСК, А/С 4, з пазнакаю "Конкурс 2001".*



Выкарыстай магчымасць знайсці сяброў і аднадумцаў і атрымаць

**ПРЫЗЫ!!!!**

*Кантактуйце: 4-51-32 (Надзею, Людмілу); 2-57-18 (Алесь).*

ЗАМЕЖЖА

## 10 дзён у Нямеччыне

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. А)*

Мы былі адзінымі маладзейшымі за 60 год. Вытрыманае ў рэтра-стылі памяшканне, павольная музыка і шмат пажылых параў, якія вядуць нетаропкія размовы, пацягваюць каву ці гарбату. Я паспрабавала на іх месцы ўявіць маю бабулю – нешта не атрымалася.

### Адкрытасць улады

Дзякуючы праграме, наша група пабачыла, як працуе заканадаўчая і выканаўчая ўлада Нямеччыны. Здзівіла, што на любым узроўні ўлады – ці то кіраўніцтва зямлі, так званы Ландтаг, ці то гарадскі савет невялічкага мястэчка, – забяспечана поўнай адкрытасцю дзеянняў чынавенства. Так, у бюджэце Ландтага прадугледжаны выдаткі на экскурсіі выбаршчыкаў у заканадаўчы орган (у год каля 8 млн. марак). Кожны дэпутат мае права два разы на год запрасіць у Ландтаг 30 жыхароў сваёй выбарчай акругі. Дзякуючы гэтаму выбаршчыкі маюць магчымасць пабачыць, чым займаюцца законатворцы. Немцы лічаць, што гэта акупаецца: дэмакратыя можа трымацца толькі на празрыстасці і даверы.

Калі мы патрапілі на пасяджэнне гарадскога савета Бад-Мюстэрайфеля, побач з намі сядзелі прадстаўнікі няўрадавых арганізацый. Пакуль бургамістр з калегамі абмяркоўвалі праблему выгула сабак, я спрабавала ўявіць на пасяджэнні Бабруйскага райвыканкама прадстаўніка, напрыклад, Маладога Фронту: нешта не атрымалася.

Шлях нямецкага народа да дэмакратыі і павагі свабоды асобы быў цяжкім, і зараз, згодна з Канстытуцыяй і жыццём, асоба на самой справе з'яўляецца найвялікшай каштоўнасцю дзяржавы. І за гэта немцы гатовы нават узяць зброю ў рукі.

Так, згодна з артыкулам 20 Канстытуцыі ФРГ, кожнаму, хто спрабуе знішчыць дэмакратычны строй, усе немцы маюць права аказваць супраціў, калі не могуць быць выкарыстаныя іншыя сродкі.

### Гэта ўсё існуе

Калі скончыліся 10 дзён, я зразумела, што Захад – не толькі кіно. Я бачыла гарадскі транспарт, у якім цябе не сціскаюць з усіх бакоў, чыноўнікаў, якія ўвесь снежань занятыя, таму што ім трэба на дзіцячых ёлках быць Санта-Клаусамі, і людзей, якія ветлівыя з табою і ўсміхаюцца нашмат часцей, чым мы.

Немцы дамагліся гэтага. Спадзяюся, зможам і мы.

**Улада БЯРЭЗІНА.**



НА ТЭМУ МАРАЛІ

## Жахлівая адказнасць

***Многія з нас з задавальненнем чытаюць кнігі аб рамантычных пачуццях, вандроўках, захапляльных прыгодах, якія перажываюць герой альбо гераіня. Некаторыя з нас запоем чытаюць прывакзальную прэсу. Хтосьці ідзе з любоўнымі перамогамі па жыцці, кагосьці хапае ўжо толькі на гутаркі-ўспаміны. Але вельмі мала людзей, якія не былі б зацікаўлены інтымнымі навінамі "з клубнічкай". Усе хочуць казаць пра каханне, але мала хто хоча чуць аб адказнасці за, часам, даволі авантурныя паходжанні. За такімі паводзінамі стаіць вельмі жорсткае пакаранне. Гэта і мноства разбітых сэрцаў, і неапраўданыя мары, і надзеі, і мноства праблем са станам свайго здароўя.***

### З гутаркі з Веранікай К.

*Я пазнаёмілася з ім на адным са шматлікіх святаў, недзе ў жніўні мінулага года. Мы былі ў добрым настроі, замацаваным півам. Дзесьці за тры месяца да гэтага я пасварылася са сваім каханым і доўга не магла знайсці выйсця з псіхалагічнага становішча. А тут ён, вясёлы і шчодры, адразу зачараваў сваім яркім тэмпераментам. Пасля сустрэчы ў тую ноч я больш ніколі яго не бачыла.*

*Дзесьці праз тры-чатыры месяца ў мяне пачаліся праблемы са здароўем. Усё больш і больш непакоіў боль у нізе жывата. Калі боль стаў зусім нясцерпным, звярнулася да гінеколага. Пасля агляду высветлілася, што ў мяне венерычнае захворванне – ганарэя. Але яшчэ большае пакаранне чакала мяне наперадзе. Вось ужо паўгады я ў шлюбе з цікавым маладым чалавекам. Мы вырашылі стварыць сям'ю, завесці дзяцей. Гэта была мара майго жыцця.*

*Была сям'я, было шчасце, але не было дзяцей. Аднойчы, утойваючы гэта ад свайго мужа, я прайшла гінекалагічнае абследванне. У яго выніку высветлілася, што я ніколі не змагу падарыць свайму каханаму дзіця. Вось ужо два тыдні я ў жахлівым стане. Пакаранне за тую ноч на свята знайшло сваю ахвяру праз год. Захворванне змяніла стан маточных труб і назаўжды закрэсліла маю будучыню.*

Дзесяткі такіх гісторый, якую нам паведаміла Вераніка, штодзённа чуюць супрацоўнікі скурвендыспансера і гінекалагічных кансультацый Бабруйска. Патухшыя вочы, разупэўненасць у будучыні пануюць у цёмных калідорах медыцынскіх устаноў. Прычына таго – венерычныя захворванні.

### З гутаркі з Уладзімірам В.

*У мяне быў свой бізнес, свой інтарэс у жыцці, свая сям'я, кватэра, машына. Я вельмі забяспечаны чалавек. Але навошта мне зараз гэта? Навошта жыць, калі ў сваім існаванні я не бачу сэнсу... Вельмі прыстойны сем'янін, я дазваляў сабе трохі адпачыць у шматлікіх вандроўках па справах. У адной з іх, недзе ў Маскве, я быў разам са сваім сябрам. Нам захацелася знайсці "дно" гэтага горада. Мы зайшлі ў адзін з бараў і пазнаёміліся там з дзвюма дзяўчынамі суадноснага выгляду. Потым, значна павесялеўшы ад гарэлкі, вырашылі зайсці да іх "у госці". Толькі раніцай скончылася шампанскае і цыгарэты. Вымотаныя начнымі вандроўкамі, мы ледзь дайшлі да аўто і паехалі дамоў.*

*І вось, дзесьці праз тыдзень, пачаліся першыя непрыемнасці. Спачатку я імкнуўся не заўважаць іх. Звярнуўся да доктара толькі тады, калі стала немагчыма хадзіць у туалет з-за болю. Доктар паставіў дыягназ – ганарэя. За весь месяц хваробы я нічога не казаў жонцы, тлумачыў ёй, што вельмі стаміўся на працы, пазбягаў сустрэч, ад'язджаў у далёкія рэйсы. Пасля лячэння прайшоў боль, але разам з ім знікла і патэнцыя. Шматлікія грошы, укладзеныя ў лячэнне, не дапамаглі – я імпатэнт.*

*Мне 35 год, у мяне жонка, дзіця, але паміж намі ўжо няма былой гармоніі. Я стаў піць, у мяне няўдала пайшлі справы. Маё жыццё – гэта канфлікты ў сям'і і на працы. Жах, з якога няма аніякага выйсця.*

Адчуванні сэрдца заўсёды перажываюцца больш балюча, чым сухая мова лічбаў. Можа, Вераніке і Уладзіміру і ўдасца пазбегнуць сваіх праблем, але колькі іх, такіх жа пакрыўджаных і няўпэўненых засталося без дапамогі і надзеі.

Так, да супрацоўнікаў скурвенералагічнай службы за апошні год звярнулася за спецыфічнай дапамогай больш тысячы чалавек. Асноўная частка з іх – людзі маладога і сярэдняга ўзросту. Большасць атрымала дапамогу ў скурвенералагічным дыспансеры. Умовы прыёму дазваляюць прайсці лячэнне ананімна. У бальніцы ў асноўным знаходзіцца кантынгент так званых "сацыяльна запушчаных" людзей. Гэта тыя, хто не можа альбо не хоча атрымаць дапамогу дома, і тыя, хто гэтага дома не мае. Цікава, што 10-15% ад усёй колькасці пралечаных хворых паўторна, на працягу года ізноў звяртаюцца за дапамогай.

Так што, аматары таямнічых вандровак і рамантычнага кахання, будзьце асцярожнымі ў сваіх летуценнях у новым тысячагоддзі.

**Зьміцер БЕРДНІКАЎ.**